КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## АМАП у якасці адплаты прыехаць можа к ёй дахаты

Незадаволеныя вынікамі выбараў жыхары Пружан стыхійна пачалі збірацца на аўтобусным прыпынку, які з часам назвалі "Прыпынкам перамен". Двойчы туды пад'язджалі аўтазакі, забіралі людзей. Некалькі чалавек затрымалі, калі яны гулялі каля магазіна паблізу прыпынку. Каб перастрахавацца, адна з жанчын напісала ў райвыканкам просьбу – дазволіць ёй у пэўныя дні хадзіць у краму за прадуктамі.

Адкрыцця, бадай, не будзе,
Што пакрыў уладу тлен.
Сустракацца сталі людзі
На "Прыпынку перамен",
Каб падзеі і навіны
Абмяркоўваць у гурме:
Пры жыццё-быццё краіны,
Хто на волі, хто ў турме.
Хоць прыпынак у райцэнтры
Не адметны, як і ўсе,
Ды далі назоў фацэтны,
Бо глыбокі сэнс нясе.
Ён уладзе даўся ў знакі.
Раззлаваная, яна
Прысылала аўтазакі,
Так сказаць, для "хапуна".
Не мясілі ўсіх "на цеста",
Ды бяда для небарак,
Як аўтобуса заместа
Пад'язджае аўтазак.
У міліцыі разборкі
Доўгі час былі затым,
І ад іх асадак горкі
Не развейваўся, як дым.
Нехта здзівіцца, магчыма,
Ды бывала нават так:
Тых, хто проста крочыў міма,
Заграбалі ў аўтазак!
А з прыпынкам побач – крама.
Каб не мець затым дакук,
Не хадзілі людзі прама,
А рабілі добры крук.
Дык не надта зручна гэта –
Крук адмерваць дзень пры дні…
Напісала ліст кабета
Выканкама старшыні:
"Мой настрой не лепшы самы,
Бо праблема ёсць адна:
Кожны дзень хаджу да крамы
І баюся "хапуна".
Сэнсу ў сходках тых не бачу –
З Бацькам крочу я ў нагу,
Ды, як кажуць, пад раздачу
Трапіць з іншымі магу.
Маю гэткую апаску –
Лезе стрэмкаю ў душу…
І таму зрабіце ласку:
Мне паведаміць прашу
Тэрмінова аб раскладзе
Міліцэйскіх "хапуноў".
А на выбарах уладзе
Голас свой аддам я зноў…"
Старшыня райвыканкама
Зразумеў, відома: "З нас
Проста здзекуецца дама…"
А які чакаць адказ?
Пэўна, ў якасці адплаты
Той, хто ўлады на чале,
Не к прыпынку, а дахаты
К ёй амапаўцаў прышле…

***

Я скажу з такой нагоды:
Зробіць лёс нарэшце крэн –
Дачакаемся свабоды
На "Прыпынку перамен"!

### Дзед Мароз памёр…

Пад Новы год пайшоў я ў краму
Купіць дарункі для дзяцей
І там спазнаў такую драму,
Што збегчы б ад яе хутчэй.
Дарункі тыя коштам гэткім –
Майму бюджэту прыгавор…
Ну як сказаць мне бедным дзеткам,
Што Дзед Мароз ужо памёр?

### Стаў дарослым

Калісьці ён, маленькі шалапут,
Даверлівым, наіўным велмі быў –
Чакаў з надзеяй навагодні цуд.
Цяпер чакае ён карпаратыў.

### Вырас

Што сыну падарыць на Новы год?
Спытацца маці ў сына парашыла
І зразумела: вырас абармот,
Бо адказаў ён:
– Лепш аддай грашыма.

### Студэнцкія святы

Вельмі многа розных свят
Ёсць у нас – усіх людзей.
А ў студэнтаў свят няшмат:
Новы год і кожны дзень…

ВЕРЫЦЬ – НЕ ВЕРЫЦЬ?

## Дайце статыстыку па рэгіёнах

Памятаю расказ на старонках "Народнай Волі" адной беларускай дзяўчыны, якая жыве за мяжой і працуе ў шпіталі. Аказваецца, у той еўрапейскай краіне зусім не так, як у нас, падаюць статыстыку аб захворванні людзей на каранавірус. Кожны дзень па тэлебачанні транслююцца звесткі па кожным рэгіёне, кожным горадзе. Па-першае, ніхто не хавае рэальных лічбаў, а па-другое, такая падрабязная інфармацыя дае ўяўленне, дзе небяспека заражэння большая, а дзе меншая. Чалавек выбірае, куды можна ехаць для вырашэння тых ці іншых праблем, а куды лепш не трапляць, пакольі там бушуе пандэмія.

Я лічу, вопыт замежных калег павінны пераняць беларускія медыкі. Інфармацыя нашага Міністэрства аховы здароўя настолькі куцая, што нельга зразумець, якая сітуацыя з каранавірусам, скажам, у Брэсце ці Віцебску, Гомелі альбо Магілёве, не кажучы ўжо пра раённыя цэнтры, вёскі. Ёсць усе падставы думаць, што наогул падаецца фальшывая статыстыка. Глядзіце, вось ужо каторы тыдзень паведамляецца, што ад эпідэміі ў нас паміраюць ў суткі 8–9 чалавек. Ну не можа быць такой стабільнасці на працягу доўгага перыяду! Калі б інфармацыя прадстаўлялася па рэгіёнах, вялікіх і малых гарадах, то, верагодна, карціна была б зусім іншая.

Можна сцвярджаць, ашуканства ідзе на дзяржаўным узроўні. Такім чынам праблема, а дакладней – небяспечная хвароба, заганяецца ўсё глыбей і глыбей. І не трэба Лукашэнку ездзіць па бальніцах, лепш кажыце людзям праўду, а не займайцеся хлуснёй.

**Рэгіна КУБАЙ.**

ЗАХАПЛЕННІ

## Беларускія выцінанкі

Шаноўныя чытачы "Народнай Волі"!

Прапаную вам засвоіць беларускую народную традыцыю – выраб выцінанкі.

Калі хто не ведае, што гэта такое, скажу: выцінанка – гэта лекалы, зробленыя ў лепшых традыцыях беларускага народнага мастацтва. На Беларусі яно вядзе свой пачатак ад XVI стагоддзя, калі маленькія ажурныя выразкі з паперы "кустоддзі" падкладаліся пад сургучовую пячатку дзяржаўных дакументаў Вялікага Княства Літоўскага. Выразкі з паперы былі ўпрыгажэннем альбомаў шляхцянак, неад'емнай часткай вяселля беларускіх яўрэяў, дэкорам сялянскага жытла і забаўкай для дзяцей.

Выразанне выцінанак спрыяе святочнаму настрою. Рабіць гэта можна самасам, разам з дзеткамі альбо вялікай кампаніяй – гэта заўжды цікава і захаплляльна! Вось якія ўпрыгажэнні можна зрабіць сваімі рукамі і без асаблівых расходаў.




**Сяржук БАХУН, майстар выцінанкі.**

**P.S.** Калі каму спатрэбіцца кансультацыя, тэлефануйце па нумарах: (+375-29) 724-54-56, (+375-29) 624-54-56.

ПРАПАНОВА

## Яны не павінны прызначацца, няхай іх выбірае народ

Афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі імкнуцца стварыць уражанне, быццам ідзе актыўны дыялог паміж грамадствам і ўладамі. Маўляў, людзі актыўна выказваюцца па самых розных жыццёвых пытаннях. Вядома ж, і тых, якія, магчыма, будуць выносіцца пры абмеркаванні праекта новай Канстытуцыі.

У адной з газет я прачытаў, што падчас дыскусіі на дыялогавай пляцоўцы ў Гомелі былі прапанова накошт таго, каб кіраўнікоў райвыканкамаў зацвярджаў не прэзідэнт, а старшыні абласных выканаўчых камітэтаў. Я лічу, ад гэтага нічога не зменіцца. Сёння ўся мясцовая вертыкаль залежыць у першую чаргу ад Лукашэнкі. Калі ў будучым лёс таго ж раённага начальніка будзе вызначаць, скажам, кіраўнік аблвыканкама, што ад гэтага зменіцца? Абласны чыноўнік пад каўпаком у таго ж прэзідэнта. Таму як дзейнічалі ўсе вертыкальшчыкі з аглядкай на "Чырвоны дом", так і будуць паступаць.

Мая прапанова: кіраўнікі мясцовых улдных органаў павінны не прызначацца, а выбірацца народам. Так, як гэта робіцца ў цывілізаваных краінах. Калі той ці іншы чыноўнік будзе ведаць, што яго кар'ера залежыць ад людзей, то з улікам іх інтарэсаў ён і будзе дзейнічаць. Вядома ж, у межах заканадаўства.

**Сяргей ГУЛЯКЕВІЧ, выбаршчык.**

АКТУАЛЬНЫ ДЫЯЛОГ

## Алег ТРУСАЎ:
# «Мы павінны перамагчы вясной…»

*Чым застанецца стары год у памяці народнай? І калі страціць актуальнасць лозунг "Верым! Можам! Пераможам!"? Пра гэта напярэдадні навагодніх свят мы пагутарылі з гісторыкам і грамадскім дзеячам Алегам ТРУСАВЫМ.*




**– Алег Анатольевіч, беларуская мірная рэвалюцыя зацягнулася на няпэўны час. На парозе надыходзячага Новага года як бы вы скарактарызавалі той, які сыходзіць?**

– Пачну з таго, што 2020 год для мяне адназначна гістарычны, гэткі ж значны, як 1918-ы, калі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Самае галоўнае – мы сёлета змаглі захаваць незалежнасць Беларусі. Успомнім, як у канцы 2019 – пачатку 2020-га Масква падсоўвала Беларусі 31-ю дарожную карту, плануючы анексію на поўным сур'ёзе. Але потым Пуцін прыдумаў беларускую рэвалюцыю, і я яму за гэта ўдзячны.

**– Прычым тут Пуцін? У Беларусі паўстаў народ, пратэстуючы супраць сфальсіфікаваных выбараў.**

– Чакайце-чакайце, давайце зірнём на падзеі па парадку. Ніякай 31-й карты Лукашэнка не падпісаў. Мала таго, ён настолькі пасябраваў з ЗША, што да нас прыязджаў дзяржсакратар Майк Пампеа, і мы атрымалі ад амерыканцаў два танкеры нафты. Масква глядзела на гэта, сціснуўшы зубы. Далей – з-за пандэміі Крэмль адмовіўся ад юбілейнага парада на 9 Мая, а Беларусь – у піку Маскве – парад правяла. І Пуцін вырашыў адпомсціць Лукашэнку на выбарах. Парад прайшоў 9 мая, а ўжо 10-га з'явіўся Цапкала і Бабарыка – як магчымыя кандыдаты на прэзідэнцкіх выбарах. Крэмль такім чынам вырашыў напалохаць кіраўніка Беларусі. А ён не напалохаўся, аднаго не зарэгістраваў, другога пасадзіў. І пайшло-паехала… А калі ЦВК зарэгістравала Ціханоўскую, пачалася, як кажуць у Расіі, "неуправляемые процессы".

**– Зноў жа галоўнай рухальнай сілай тых "працэсаў" быў беларускі народ – сотні тысяч на вуліцах.**

– Прычым шмат моладзі, і гэта важна падкрэсліць. Прыйшло новае пакаленне, якое цалкам вырасла ў незалежнай Беларусі. Для пакалення 25 гадоў патрэбна. Прыйшла моладзь, якая ведала і пра бел-чырвона-белы сцяг, і пра Пагоню, і гісторыю ВКЛ (за што Лукашэнку Салаўёў і іншыя расійскія прапагандысты ўвесь час крытыкавалі). І моладзь такую яўку зрабіла на выбарах, што сарвала ўсе планы ўлады. І – выйшла адстойваць свае галасы, выцягнуўшы на вуліцы і папярэднія пакаленні. У выніку ў 2020 годзе беларусы паказалі ўсяму свету, што ў цэнтры Еўропы нарадзілася новая нацыя. І жанчына, хатняя гаспадыня, якая смажыла катлеты, за паўгода стала суперпалітыкам! Яе прымаюць першыя асобы еўрапейскіх дзяржаў, рыхтуецца візіт у ЗША...

**– У той жа час у краіне небывалыя раней па маштабах рэпрэсіі, і ў лозунгу "Верым! Можам! Пераможам!" трэцяе слова загучала ўжо не так упэўнена.**

– Мы павінны перамагчы вясной. Па-першае, стане цяплей, па-другое, ёсць сур'ёзныя прагнозы, што Пуцін сыдзе з-за хваробы.

**– Ага, надвое бабка варажыла – ці памрэ, ці будзе жыва.**

– Я не кажу, што памрэ. Сыдзе. На гэта паказваюць і выкрыванні Навальнага. Хутка Крамлю стане не да Беларусі. А не дасць ён грошай Лукашэнку – і ўсё. Самалёт у Абу-Дабі ці Кітай стаіць падрыхтаваны...

**– Не варта забываць, што ў Беларусі фактычна два бюджэты. І з другога, сфарміраванага Кіраўніцтвам справамі прэзідэнта, якое распараджаецца велізарнай нерухомасцю, яшчэ доўга можна падкормліваць тых жа сілавікоў.**

– Вы кепска ведаеце псіхалогію гэтых людзей. Са сваёй кішэні традыцыя на справы дзяржаўныя яны не будуць. Не, што ні кажыце, у 2020 годзе ўсе зоркі на баку Беларусі. Ужо ўвесь свет зразумеў, што іголка з яйка, якая можа забіць Кашчэя, знаходзіцца ў Мінску. Незалежная Беларусь можа стаць апошнім цвіком у труну Расійскай імперыі. А вось калі Расія падначаліцца і з'есць Беларусь, то на гэтым не спыніцца, дойдзе і да Варшавы, і да Берліна. Як любяць паўтараць крамлёўскія прапагандысты, "можем повторить".

**– Відавочна, што 2020 год стаў годам расчаравання большасці беларусаў у "брацкай Расіі". Вайна ва Украіне так на нас не падзейнічала, як падтрымка Масквой нелегітымнай беларускай улады. Як кажуць, няма ліха без дабра.**

– Дык так і ёсць. І чым даўжэй Лукашэнка ўтрымаецца ва ўладзе, тым менш беларусы будуць верыць "расійскім братам". Ну дапусцім, ён пратрымаецца яшчэ год. І тады выбары ў Беларусі прыхільнікі Расіі не выйграюць. Ужо сёння выпусці Бабарыку – не відома, якія ў яго шанцы. З'явіліся новыя фігуры. І яшчэ з'явіцца. Не горшыя. І яны, стаўшы пад бел-чырвона-белы сцяг, з'яўлены, загаворыць па-беларуску.

**– З бел-чырвона-белым улада працягвае апантана змагацца. Ці спрацоўвае ў сённяшняй Беларусі старая, прыдуманая яшчэ ў ЦК КПБ, устаноўка пра "фашысцкі сцяг", якая цяпер гучыць з усіх дзяржаўных рупараў?**

– Думаю, што ўжо не спрацоўвае. Хлусня сёння лёгка выкрываецца. Бел-чырвона-белы сцяг пры немцах быў прызнаны толькі ў цэнтральнай Беларусі, і то толькі восенню 1942 года. А, скажам, у маім родным Магілёве ён быў забаронены. Не быў дазволены ён і ў Беластоку ці ў Гродне, дзе былі выпадкі, калі за беларускі сцяг людзі траплялі ў гестапа. А вось у Заходняй Беларусі КПЗБ хадзіла пад бел-чырвона-белым сцягам, і камсамольцы хадзілі.

**– А самы вядомы заходнебеларускі паэт-камуніст Максім Танк нават вершы пісаў такія:** ***"Пад сцягам бел-чырвона-белым / чакае перамога нас!"***

– Гэты сцяг выкарыстоўвалі і розныя арганізацыі, дазволеныя палякамі, напрыклад, Таварыства беларускай школы. Так што ніякія фашысты яго не запляміі. А вось пад расійскім трыкалорам цэлая армія Уласава ваявала. І, нягледзячы на гэта, ён сёння лунае над Крамлём. Ведаеце, калі я бачу чырвона-зялёны сцяг над аўтазакам, дык радуюся. Горшай антырэкламы не прыдумаеш. Таму першым указам новы прэзідэнт Беларусі (хто б ён ні быў) верне бел-чырвона-белы сцяг, які ўжо стаў агульнанацыянальным. Неяк, яшчэ гадоў пяць таму, я зайшоў у офіс да знаёмага прадпрымальніка. Ён падводзіць мяне да партрэта Лукашэнкі на сцяне, пераварочвае, а там – сцяг і Пагоня…

**– Фіга ў кішэні – наш улюбёны спосаб змагання. Прыгадваецца, што і ў 1991 годзе на Доме ўрада Пагоню пачапілі зверху на бээсэсэраўскі герб. На ўсякі выпадак…**

– Гэта была якраз мая дэпутацкая прапанова – не збіваць савецкі герб, а закрыць яго Пагоняй. Каб збіць яго, трэба было два паверхі ламаць! А Дом урада – помнік архітэктуры эпохі канструктывізму.

**– Памятаю, людзі ўсё ж абураліся, што Пагоню начапілі на стары герб.**

– Ведаеце, усё ж нельга ламаць спадчыну. Бальшавікі пачыналі з таго, што зламалі помнікі ўсім царам і паставілі свае. А Еўропа не ламала помнікаў сваім каралям. Герб БССР на франтоне Дома ўрада – не проста гіпсавая цацка, ён стаіць на дзяржаўным уліку. Тады Кебіч да апошняга цягнуў, то грошай не было, то бронзы… Дарэчы, калі ў Мінск у 1941 годзе прыйшлі немцы, яны таксама не змаглі зняць сімвал БССР. Бо архітэктар Лангбард так спраектаваў будынак, што герб на ім – архітэктурная дэталь. Там маналіт.

**– Пры сучасных тэхналогіях і маналіт лёгка зразаецца.**

– Зрэзаць можна, але я і сёння супраць гэтага. Дом урада – гэта помнік, а помнікі трэба захоўваць. Як гісторык я лічу так: добра, што лукашэнкаўская ўлада замест нашых сімвалаў прыдумала свае. Яна з імі і адыдзе ў нябыт. Вось мне ўспамінаецца, калі мы ў Вярхоўным Савеце ў 1995 годзе аб'явілі галадоўку, нас збівалі сілавікі ў форме з Пагоняй. І гэта было асабліва балюча…

**– Тут я з вамі згодны, не падзяляючы вашага аптымізму накошт спрыяння зорак. Падстаў для песімізму куды больш: артысты з Тэатра оперы і балета працуюць у Літве, Купалаўскі тэатр разгромлены, да гэтай пары працягваюць звальняць выдатных спецыялістаў ва ўсіх сферах… Хіба гэта не адкіне Беларусь назад?**

– Гэта, наадварот, нас умацуе. Ну, паспяваюць нашы спевакі ў Літве. Пасля перамогі зноў будуць тут спяваць. І пра купалаўцаў не варта перажываць. Іх ва, дзякуй Богу, не расстралялі, як іхніх дзядоў у 1937-м у Курапатах. Нават не пасадзілі. Дзе купалаўцы сёння? На «Белсаце». І там такое паказваюць – для мільённай аўдыторыі! У тэатры ім нічога падобнага не дазволілі б. Так што вялікай трагедыі я тут не бачу. Наадварот, нам зайздросціць нашы суседзі. Вось я ўчора на тэлеканале "Дождж" глядзеў інтэрв'ю з вядомым расійскім рэжысёрам. І ён сказаў: "Пасля выкрыццяў Навальнага ў нас павінны сотні тысяч на вуліцы выйсці, як выйшлі ў Беларусі. А выйшаў я адзін. Куды падае рускі народ?" Гэта самая лепшая адзнака нам, беларусам.

**– Пасля амаль пяцімесячных пратэстаў гучаць заклікі, што трэба мяняць тактыку пратэстаў, маўляў, хопіць ужо ісці з узнятымі рукамі ў аўтазакі. А вы як лічыце?**

– Мы павінны дзейнічаць, як палякі пасля задушэння Паўстання 1863 года, якія ўсімі магчымымі спосабамі развівалі палшчызну. А мы павінны развіваць беларушчыну. Стварыць розныя суполкі, чытаць асветніцкія лекцыі, як гэта робіць, скажам, Ганна Севярынец. Бо на сёння адзіны наш недахоп у тым, што ў аўтазаках і турмах беларуская мова амаль не гучыць. А калі гучыць, то за яе яшчэ больш б'юць. А трэба, каб на судах усе патрабавалі працэсаў на беларускай мове. Гэта выглядала б лагічна. Бо што людзі падчас шэсцяў крычаць? "Жыве Беларусь!" Усе крычалкі пераважна беларускамоўныя. Без мовы мы невядома хто, а з мовай – народ. І гэта разумее ўсё большая колькасць людзей.

**– Мне падабаецца тут пазіцыя каталіцкага касцёла. Як любіць паўтараць ксёндз Уладзіслаў Завальнюк: "Той, хто не шануе роднай мовы, чыніць смяротны грэх". Таму, відаць, рэпрэсіі і каталіцкіх святароў закранулі.**

– Тут мы мусім з удзячнасцю згадаць Папу Яна Паўла II, які дэкрэтам загадаў па-беларуску маліцца. Яму ў Беларусі трэба помнікі паўсюль ставіць. Добра, што мітрапаліт Кандрусевіч змог вярнуцца да сваёй паствы. Я спадзяюся, што папа Францішак не толькі не прыме яго прашэнне аб адстаўцы, а зробіць кардыналам. Дай Божа! Тадэвуш Кандрусевіч, на маю думку, варты гэтага звання.

**– Магчыма, у бліжэйшыя месяцы нас чакае гэтак званы ўсебеларускі сход, на які ў нашай няпростай сітуацыі дзейная ўлада глядзіць як на збавенне. Але абсалютна незразумела, як з яго дапамогай улада хоча легітымізавацца.**

– Я не веру, што гэты сход увогуле адбудзецца. Хоць у ім, думаю, зацікаўлена тая ж Масква. Бо, калі нічога не прадпрымаць, праз год пройдуць нармальныя выбары, і тады Крамлю няма чаго тут рабіць. Мяне цешыць хіба тое, што ў Расіі сваіх праблем хапае, ёй не да нас будзе. Як, дарэчы, было ў 1918 годзе. Калі б бальшавікі не падарылі Беларусь немцам, не ўзнікла б БНР, і мы сёння існавалі б у складзе Расіі, як, напрыклад, Карэлія.

**– Вы кажаце: Расіі не да нас. Яшчэ як да нас. Згадайце нядаўна падпісаную дамову з "Росгвардией", якая атрымлівае законнае права дзейнічаць і на тэрыторыі Беларусі.**

– Чым больш на нашых вуліцах будзе расійскіх сілавікоў, тым большыя будуць антырасійскія настроі. Адна справа, калі свой Васька цябе б'е, а другая – калі расіянін. Яшчэ раз паўтару сваю думку: чым больш пратрымаецца гэты рэжым, тым больш мы выйграем.

**– Вы працягваеце займацца навукай. Чым 2020 год быў плённым для вас як навукоўца?**

– Нарэшце выйшла ў свет кніга "Эвалюцыя будаўнічых матэрыялаў і тэхнікі манументальнага дойлідства Беларусі XI–XVIII стагоддзяў" – вынік маёй навуковай дзейнасці за сорак гадоў. Справа ў тым, што пад старасць я паступіў у дактарантуру, магчыма, буду абараняць дысертацыю. Калі ўлада зменіцца.

**– Дык які беларускі будаўнічы матэрыял самы трывалы?**

– Камень. У нас ёсць такія ўнікальныя пароды, як граніт і гнейс. Іх можна пабачыць у сценах Каложскай царквы, якой больш за 800 гадоў. Гісторыя беларускай цэглы, дахоўкі, кафлі – усё ёсць у маёй кнізе. Я гэта ўсё сабраў, каб паказаць, што ўжо з XIII стагоддзя мы былі інтэграванай часткай Заходняй Еўропы, у нас працавалі самыя знакамітыя дойліды. У Еўропу мы і вернемся. Памятаеце рэферэндум 1991 года? Толькі мільён чалавек быў за незалежнасць, а шэсць выступалі за захаванне СССР. Прайшло 26 гадоў, і сёння за незалежнасць – усе. Нават ябацькі на сваіх мітынгах крычаць: "За Беларусь!" Так што 2020 год у гэтым плане стаўся вызначальным. З чым я ўсіх беларусаў і віншую!

**Міхась СКОБЛА.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
29 СНЕЖНЯ 2020 г.

ТАМ, В ГЕРМАНИИ

# Вакцинируют всех!

*Министр здравоохранения Германии **Йенс Шпан** пообещал предложить прививку от коронавируса всем жителям страны с середины 2021 года.*



Вакцинация будет бесплатной и добровольной, подчеркнул Шпан.

Сначала прививки в стране решено делать людям в возрасте от 80 лет и тем, кто живет и работает в домах для людей преклонного возраста. Также в первую очередь вакцинируют медицинский персонал в отделениях неотложной помощи и интенсивной терапии. Только после вакцинации этих категорий людей начнется постепенный охват других групп населения. Сначала вакцины от коронавируса будут вводиться в специальных центрах, позже они станут доступны в кабинетах врачей.

Глава немецкого Минздрава подчеркнул, что центры вакцинации и их персонал уже готовы начать работать. Впрочем, Шпан отметил, что начало этой кампании еще не означает победу над коронавирусом. *«Нам понадобится много терпения, чтобы побороть эту пандемию»*, – сказал министр.

Кстати, первой прививку сделали 101-летней Эдит Квойзалла, которая живет в доме для пожилых людей в городе Хальберштадт.

# Поток мигрантов уменьшился на треть

*За первые девять месяцев 2020 года в Германии было подано на 30% меньше (а в целом по ЕС – на 32,6% меньше) прошений об предоставлении убежища, чем за тот же период 2019 года.*

В период с января до конца ноября в ФРГ были зарегистрированы 93.710 ходатайств о предоставлении убежища, сообщили издания медиагруппы *Funke* со ссылкой на европейское статистическое ведомство *Eurostat* в Люксембурге.

В то же время Германия по-прежнему остается главной целью прибывающих в Евросоюз мигрантов: в первые девять месяцев уходящего года в стране зарегистрированы 24,3% первичных прошений о предоставлении убежища. На втором месте Испания – 22,8%, на третьем Франция – 19%.

Таким образом, на эти три страны приходится две трети всех первичных прошений о предоставлении убежища в ЕС. Наименьшее их количество зарегистрировано в Венгрии – там убежища попросили всего 70 человек.

# Вино, глинтвейн, игристое?

*Что немцы будут пить на праздники во время локдауна*

Пандемия и два локдауна не отбили у немцев желания поднимать бокалы с их самым любимым игристым вином Rotkäppchen. *«Всё то, что не было выпито в общепите и во время отпуска, было выпито дома»*, – подводит предварительные итоги 2020 года **Кристоф Квайссер**, генеральный директор винодельческой компании Rotkäppchen-Mumm Sektkellereien.

### На праздничных столах в Германии будет стоять «Красная Шапочка»

Она была и остается бесспорным лидером немецкого рынка игристого вина. В 2019 году каждая вторая проданная в Германии бутылка с этим праздничным напитком была выпущена винзаводами компании Rotkäppchen-Mumm Sektkellereien. *«Этого же мы ожидаем и по результатам 2020 года»*, – сказал Кристоф Квайссер в интервью информационному агентству *dpa*.

Вторым по популярности игристым вином в Германии после Rotkäppchen является испанское Freixenet.

Продажи в супермаркетах, специализированных винных магазинах и через интернет полностью компенсировали те потери, которые компания понесла в сфере общепита. Там оборот сократился в год пандемии наполовину из-за карантинных мер, в ходе которых рестораны и кафе неделями оставались закрытыми. Они не работали во время рождественских праздников, не будут работать и на Новый год, однако главу фирмы это не смущает.

Оптимизм Кристофу Квайссеру внушает то, что *«никогда еще такое количество людей не оставалось в Германии дома, чтобы праздновать в узком кругу»*. В этой ситуации, уверен он, люди сохранят верность полюбившимся брендам: в разгар кризиса, по его словам, не до




экспериментов. Так что у компании есть все шансы вновь, как и в 2019 году, выйти на годовую выручку приблизительно в 1,1 миллиард евро. И это при том, что бутылка игристого вина Rotkäppchen стоит сейчас в Германии меньше 4 евро.

С особой гордостью глава фирмы Rotkäppchen-Mumm Sektkellereien говорит о том, что в уходящем году ее предприятия ни на один день не прерывали работу и не переходили на режим неполного рабочего времени. В компании трудятся примерно 950 человек, большинство – на головном заводе во Фрайбурге в восточногерманском винодельческом регионе Зале-Унструт.

### Немецкое вино: заметный рост продаж в условиях локдауна

В этом году, судя по всему, доля немецких вин на праздничных столах в Рождество и Новый год будет заметно выше, чем в предыдущие годы. *«Во время пандемии потребители, похоже, решили проявить солидарность с отечественными виноделами»*, – констатирует **Франк Шульц**, пресс-секретарь Немецкого института вина.

Если этот тренд подтвердится и по итогам 4-го квартала, о чем уже сейчас можно говорить с высокой долей вероятности, то 2020 год окажется особо доходным для немецких виноделов. Тем не менее лидерство на немецком рынке сохранят итальянские вина, включая игристое просекко. Но это и не удивительно, ведь объемы производства в Италии примерно в пять раз выше, чем в Германии. Так что на праздничных столах немцев преобладают вина из Италии, а также Франции и Испании.

### Глинтвейн в Германии любит лишь 40 процентов взрослого населения

Продажи типично немецкого алкогольного напитка рождественской поры в этом году значительно упали, ведь это теплое красное (а в последнее время все чаще и белое) вино по традиции особенно охотно пьют на морозце на рождественских базарах. А их в этом году из-за локдауна закрыли. Правда, некоторые бары, кафе и рестораны одно время торговали глинтвейном на вынос, но это приводило к такому опасному с точки зрения распространения вируса скоплению людей, что власти довольно быстро это прекратили.

Впрочем, пристрастие немцев к глинтвейну далеко не столь сильно, как принято считать, утверждает институт изучения общественного мнения *Yougov*. Выяснилось, что этот напиток нравится примерно 40% взрослых жителей Германии при легком преобладании мужчин над женщинами, тогда как другие 40% его не любят, а около 20% называют свое отношение к нему «средним».

При этом особенно скептически к традиционному немецкому напитку относятся как раз представители старших поколений: в возрастной категории свыше 55 лет его не любят 45% опрошенных.

# Министр здравоохранения обошел Ангелу Меркель по популярности

*Результаты опроса о популярности политиков в Германии показали неожиданные результаты. Министр здравоохранения ФРГ **Йенс Шпан** на 1% обошел канцлера Германии **Ангелу Меркель** по популярности, сообщает Welt. Опрос, в котором приняли участие 505 человек, проводился институтом исследования общественного мнения Kantar для Bild am Sonntag.*

Более половины респондентов, а именно 52%, выразили надежду, что Шпан в следующем году будет иметь «максимально возможное влияние» в политике. Ангела Меркель в 2019 году лидировала по результатам опроса. На этот раз всего один процент отодвинул ее на вторую строчку рейтинга популярности у жителей Германии. Хотя отмечено, что ее популярность не упала, а даже выросла на 11% по сравнению с прошлогодним рейтингом.

Издание отмечает, что больше всего Шпан нравится женщинам-избирателям, в то время как лишь 38% мужчин видят его лидирующим в политике в приближающемся 2021 году. Стоит отметить, что в прошлом году в опросе о популярности Шпан набрал лишь 28%.



Возможно, что так на мнение жителей Германии повлияла пандемия коронавируса. Меры по борьбе с коронавирусом, продвигаемые Йенсом Шпаном, не остались незамеченными среди немцев. Они считают, что он достаточно эффективно работает с начала пандемии.

Всего в опросном листке были фамилии 18 политиков. В топ-5 по популярности после Йенса Шпана и Ангелы Меркель вошли: премьер-министр Баварии **Маркус Зёдер** с 50%, глава Министерства финансов **Олаф Шольц** с 47% и министр иностранных дел **Хайко Маас** с 40%.

МЕМУАРЫ

# ЭПОХА И СУДЬБЫ

## Василий ШЛЫНДИКОВ

*(Окончание. Начало в №№89–101.)*



Не было шансов, по мнению очень многих, и у генерал-полковника, бывшего министра обороны Козловского. Электорат не проголосовал бы за генерала только потому, что он человек военный. Как любил говорить мой друг Г.В.Тереня, из генерала такой же демократ, как из еврея – оленевод. Никто не сомневался в проигрыше З.Позняка, С.Гайдукевича и С.Калякина. Вместе с тем всеми уважался выбор этих людей. В конце концов, преобладало мнение, что пятеро кандидатов (Домаш, Гончарик, Чигирь, Козловский, Калякин) из своей среды выберут человека, который был бы назван единым от демократической оппозиции. Сделать это самостоятельно они не сумели, хотя мы, собственно говоря, вся верхушка оппозиции, прилагали усилия, чтобы они определились самостоятельно. Думаю, мы требовали от людей невозможного.

Как-то летом заявил о своих претензиях на высший пост в стране М.А.Маринич – посол Беларуси в Латвии, Эстонии и Финляндии, ранее работавший председателем Минского горисполкома и министром внешнеэкономических связей. Мне позвонил его доверенный человек, и я встретился с Михаилом Афанасьевичем. Уже шла кампания по сбору подписей. Маринич попросил поддержки. Я помнил его еще со времен работы его председателем Минского горисполкома, потом часто сталкивались во время его работы заместителем, а затем министром внешнеэкономических связей республики. Я знал его как очень хорошего, порядочного, делового и высококвалифицированного человека. Понимал, что его кандидатура вполне могла бы стать приемлемой для большинства демократических сил. Понимал, что он очень поздно включился в избирательную кампанию и тем самым значительно уменьшил свои шансы. Я ему сказал об этом. Сказал также, что сделаю все возможное, чтобы убедить коллег из оппозиции считать его демократическим кандидатом и оказывать ему всяческую поддержку.

Где-то за месяц до выдвижения Маринича мне поступило предложение от советника президента К. выдвинуть свою кандидатуру на президентские выборы. К. мне сказал: «Группа должностных лиц государства считает, что у людей, заявивших свои кандидатуры на президентский пост, нет шансов, но он есть у вас, Василий Михайлович, как у успешного в прошлом хозяйственника, человека, создавшего одну из сильных партий страны. У вас всегда получалось все, если вы за что-нибудь брались». Вначале разговор состоялся в кабинете проректора нархоза, ныне покойного Н.Е.Зайца в присутствии С.А.Богданкевича. От предложения я отказался, мотивируя это тем, что уже поздно. Осталось мало времени для раскрутки. Затем состоялась встреча с К. у него на даче. Он предложил еще раз подумать, гарантировал полную финансовую поддержку. Договорились встретиться уже вместе с Богданкевичем и Гончариком, с которым мы по плану предлагающей стороны должны были идти в паре. На опушке леса недалеко от дачи К., где мы встретились, прослушать нас было невозможно, так как дорога к лесу шла через поле и все хорошо просматривалось. Помню, что К., входивший в предвыборный штаб Лукашенко, верил, что последний научится управлять государством. Это он говорил сразу после избрания Лукашенко президентом. Сейчас же сказал с разочарованием, что у нас президент необучаем, его нужно менять, иначе рано или поздно страна дорого заплатит. Соблюдая конспирацию, еще раз все обсудили. Здесь за рюмкой водки я, в очередной раз взвесив все «за» и «против», отказался от предложения, как я понял, очень влиятельных в государстве людей. Я считал, что мой характер не позволит быть успешным руководителем страны. Затем в качестве кандидата появился Маринич. Думаю, нас уговаривали одновременно, возможно, те же люди. Так что думали, кто же станет президентом страны, не только партии, ГК «Выбор-2001», общественное объединение «Земля и воля», но и люди из управленческой элиты страны, которые не видели другого выбора, кроме смены президента. По-другому и быть не могло, так как экономика уверенно пикировала вниз. Волюнтаризм, беззаконие, постоянная ложь надоели многим. Перспективы на улучшение никто не видел. Состояние экономики в тот период показано в моей статье, опубликованной в «Народной Воле» 9 августа 2001 года «Это нам надо?».

### *Это нам надо?*

*В канун президентских выборов официальная пропаганда без устали повторяет о небывалых успехах в экономике. И чего мы только не достигли под «мудрым руководством» нелегитимного президента: объемов производства, сопоставимых с 1990 годом, уровня жизни, лучшего чем где-либо, успехов в двусторонних отношениях с Китаем, Ираком и другими далекими от нас странами. А забота о народе какая! Каждый день по телевизору об этом бубнят. А что на самом деле? На самом деле картина прямо противоположная.*

*Что касается роста производства, то в 1994 году, когда власть была поднята из «грязи» «специалистами» по запуску заводов, в стране производилось больше:*

*грузовых автомобилей – в 1,7 раза,*
*пиломатериалов – в 1,6 раза,*
*тракторов – в 1,9 раза,*
*электроэнергии – в 1,2 раза,*
*кирпича строительного – в 1,8 раза,*
*мяса – в 1,9 раза и т.д.*

*Поголовье крупного рогатого скота сократилось за прошедшее время в 1,4 раза, свиней – в 1,3 раза. Сокращается поголовье и в текущем году.*

### Поголовье скота по состоянию на 1 января (тыс. голов)

| Наименование | 1991 | 1994 | 1997 | 1998 | 1999 | 2000 | 2001 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Крупный рогатый скот | 6200 | 5037 | 4061 | 4028 | 3944 | 3610 | 3538 |
| в том числе: | | | | | | | |
| коровы | 1699 | 1479 | 1315 | 1289 | 1271 | 1249 | 1242 |
| свиньи | 3545 | 2658 | 2220 | 2257 | 2329 | 2177 | 2090 |

*По сравнению с 1994 годом число тракторов, грузовых автомобилей, зерноуборочных комбайнов уменьшилось на селе в 1,5 раза, картофелеуборочных и льноуборочных комбайнов – в 2,2 раза, плугов – в 1,7 раза, сеялок – в 1,9 раза, свеклоуборочных комбайнов – в 2,3 раза.*

### Техническая оснащенность сельского хозяйства на январь 2001 года (тыс. штук)

| Наименование | 1991 | 1994 | 1998 | 1999 | 2000 | 2001 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Тракторы | 135,1 | 123,1 | 95,8 | 92,6 | 86,7 | 80,4 |
| Грузовые автомобили | 84,7 | 70,4 | 56,1 | 53,6 | 50,4 | 46,6 |
| Зерновые комбайны | 30,4 | 25,5 | 20,3 | 19,4 | 18,3 | 17,1 |
| Кормоуборочные комбайны | 10,5 | 10,0 | 8,2 | 8,0 | 7,6 | 7,2 |
| Картофелеуборочные комбайны | 9,2 | 8,4 | 5,8 | 5,2 | 4,5 | 3,8 |
| Свеклоуборочные комбайны | 1,9 | 1,8 | 1,2 | 1,0 | 0,9 | 0,8 |
| Льноуборочные комбайны | 4,75 | 4,0 | 2,5 | 2,3 | 2,1 | 1,8 |
| Плуги | 41,6 | 35,8 | 25,8 | 24,4 | 22,6 | 20,5 |

### Производство зерна (тыс. т)

| Наименование | 1990 | 1993 | 1994 | 1995 | 1996 | 1997 | 1999 | 2000 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Зерно | 7035 | 7508 | 6095 | 5502 | 5791 | 6420 | 3254 | 4856 |
| *Статистические данные по животноводству* | | | | | | | | |
| Реализация (тыс.т живого веса) | 1990 | 1993 | 1994 | 1995 | 1996 | 1997 | 1999 | 2000 |
| Скот и птица | 1758 | 1242 | 1138 | 995 | 937 | 941 | 696 | 619 |

Прямо мор какой-то напал на промышленность и сельское хозяйство. Перестали обновляться основные фонды заводов и фабрик (станки, оборудование, здания и сооружения). Износ станков и оборудования достигает 90%. Только за 2000 год обеспеченность оборотными средствами предприятий уменьшилась на треть. 27% от общего числа предприятий вообще проели свои оборотные средства. По сравнению с началом этого года долги предприятий увеличились на 25%. В промышленности они равны 2,5 – месячного объема производства.

Резко возросло число убыточных предприятий в целом по народному хозяйству. Если в 1999 году таких было 16,9% от общего числа, то в 2000 году – 23,4%, а на 1 июня 2001 года – 38,2%.

Важнейшей причиной такого положения является рост налоговой нагрузки на предприятия. Приводим данные финансового директора Минского тракторного завода г-на А.Бойко, опубликованные ранее в средствах массовой информации.

| | 1995 | 1996 | 1997 | 1998 | 1999 | 2000 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Сумма налогов и т.п. платежей в % от реализованной продукции | 23,0 | 15,9 | 18,9 | 18,6 | 23,9 | 31,9 |
| Сумма выплаченных налогов и т.п. платежей в бюджет и внебюджетные фонды в сравнении с суммой выплаченной зарплаты | 174,8 | 184,4 | 211,2 | 210,2 | 324,3 | 376,4 |

*Из этой таблицы видно, что налоговая нагрузка по отношению к объему реализованной продукции выросла в 1,4 раза, а по отношению к выплачиваемой зарплате – в 2,2 раза. В текущем году положение предприятий значительно усугубилось. Предприятия не в состоянии выдержать налоговую нагрузку, даже проедая основные и оборотные средства, выплачивая мизерную зарплату. В итоге только за 6 месяцев текущего года задолженность по налогам возросла в 2,4 раза. На 24,2% возросли долги предприятий за энергоресурсы. Просроченная и пролонгированная задолженность по кредитам банков возросла за январь–май на 32,7%. У большинства предприятий не хватает собственных средств на выплату заработной платы, у многих исчерпаны и кредитные возможности на эти цели.*

(Окончание на 6-й стр.)

Народная Воля http://www.nv-online.info
29 СНЕЖНЯ 2020 г.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ



з Алесем СІВЫМ

# Героі і парабкі

Сыходзячы год быў не вельмі багаты на спартыўныя спаборніцтвы з-за пандэміі каранавіруса, а вось з-за прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі ваколспартыўныя страсці закіпалі такія, што часам аж лілося праз край.

Масавыя фальсіфікацыі на выбарчых участках, арышт прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду, неверагодна жорсткія дзеянні сілавікоў, якія не толькі збівалі, але і забівалі людзей, суды, ад якіх засталася толькі назва, – усё гэта выклікала натуральнае абурэнне ў тых, хто не запіхваў сваю галаву ў прапагандысцкую тэлескрыню, а варушыў мазгамі сам. І не трэба было ніякіх дадатковых "маніпуляцый праз тэлеграм-каналы", як гэта спрабавалі падаць праўладныя прыслужнікі. Бо калі ў настаўніка падчас рашэння выбарчай задачы "пяць плюс пяць" атрымліваўся нуль, то такога педагога нават школьнікі спрабавалі тыцнуць носам у хлусню, нібы дрэннага ката.

Многія заслужаныя спартсмены і трэнеры, нават некаторыя спартыўныя чыноўнікі, натуральна, таксама ўсё гэта бачылі і не захацелі маўчаць. Яны нікога не абражалі, не заклікалі да дзяржаўнага перавароту, а проста белае назвалі белым, а чорнае – чорным.

І вось тут спартыўная грамадскасць падзялілася! Тыя, хто выступаў за справядлівыя выбары, супраць гвалту і беззаконня ў краіне, аказаліся, паводле меркавання ўлады, ледзь не ворагамі Беларусі, якімі кіруюць "заходнія лялькаводы".

Няўгодных спартсменаў пачалі выжываць з каманд, здымаць са ставак, пераводзіць у войска. Вядомая плыўчыха Аляксандра Герасіменя, шматразовы чэмпіён па тайскім боксе Віталь Гуркоў і адна з лепшых трыятланістак Беларусі Валянціна Зелянкевіч наогул вымушаны былі з'ехаць за мяжу, бо апасаліся за сваё жыццё.

Многія спартыўныя знакамітасці, тыя, хто застаўся ў Мінску і падтрымліваў мірных пратэстоўцаў, аказаліся за кратамі. 10 сутак арышту атрымаў сярэбраны прызёр Алімпіяды Андрэй Краўчанка. Славутая баскетбалістка Алена Леўчанка адсядзела 15 сутак, а затым ёй дадалі яшчэ трое сутак зняволення. Былому прэс-сакратару брэсцкага футбольнага "Дынама", "Міс Беларусь-2008" Вользе Хіжынковай наогул як быццам помсцілі за яе прыгажосць і сапраўды народную любоў, а таму выпісалі аж 42 сутак адміністрацыйнага арышту.

На другім баку медаля аказаліся тыя, хто зрабіў для сябе з усёй гэтай сітуацыі іншую выснову: лепш застацца ўбаку. З'явіўся нават ліст прадстаўнікоў спартыўнай грамадскасці Беларусі ў падтрымку ўлады, пад якім паставілі подпісы ўжо некалькі тысяч чалавек. Хаця, дзеля справядлівасці, гэты збор подпісаў – не тая мера, якой можна вымяраць любоў да той жа ўлады. Многія спартсмены, як затым аказалася, нават і не ведалі, што яны недзе ўжо падпісаліся. Іх прозвішчы з'явіліся ў лістах з выкарыстаннем авантурных прыёмаў.

Не выключана, што некаторыя сярод іх і насамрэч упэўнены, што толькі адзін чалавек у краіне можа даць ім заробак як быццам са сваёй кішэні і стварыць прыстойныя умовы для трэніровак. Але не думаю, што такіх шмат. Большасць з тых, хто падпісаў праўладны ліст, разважаюць прыкладна так: калі сцяну не прабіць, то і пляваць на яе не варта.

Зрэшты, гэты год даў магчымасць кожнаму чалавеку, у тым ліку і спартсменам, выбраць свой шлях і сваё стаўленне да сумлення. Нехта, як Лена Леўчанка ці Вольга Хіжынкова, назаўжды будуць для людзей героямі. А хтосьці так і застанецца парабкам. Хоць скачы, хоць не скачы…

І ЖАРТАМ, І ЎСУР'ЁЗ

## Валянціна ЗЕЛЯНКЕВІЧ: «Віншавалі з цяжарнасцю, а ў мяне – каранавірус…»

*Чэмпіёнка Беларусі па трыятлоне 2019 года, якая пазбавілася працы ў Беларусі і вымушана была з'ехаць у Расію, распавяла "Народнай Волі", як яна захварэла ў Маскве на "новы каранавірус".*



*Валянціна Зелянкевіч пасля выбараў актыўна выказвала сваю грамадзянскую пазіцыю, пасля чаго, паводле яе слоў, ёй сталі паступаць рэальныя пагрозы.*

– Я не разумею, які матыў у людзей пагражаць іншым, але факт застаецца фактам, – *кажа спартсменка.* – Так, я не хавала сваіх поглядаў. Здаецца, усім нармальным людзям было зразумела, супраць чаго пратэстуе народ: супраць хлусні і жадання зрабіць іншых нямымі ідыётамі. Я ідыётам сябе не лічу і за тры капейкі сумленне не прадаю.

*У кастрычніку Валянціна з'ехала ў Маскву. Там спрабавала знайсці працу, але захварэла і толькі на днях выпісалася з бальніцы, дзе лячылася ад каранавіруса.*

– Хвароба развівалася некалькі незвычайна, – *расказвае Зелянкевіч.* – Спачатку была невялікая тэмпература і слабасць, але праз тыдзень усё прайшло, таму захворванне спісала на банальны грып.

Праз некалькі дзён усё пачалося па новым крузе: паднялася тэмпература, з'явіліся рэзкія болі ў жываце. Калі пачала літаральна гарэць (тэмпература даходзіла амаль да 41 градуса) і зразумела, што ў хатніх умовах справіцца з хваробай не змагу, выклікала "хуткую". Дарэчы, у Маскве паняцце "хуткая" адноснае – да мяне медыкі ехалі па выкліку больш за 12 гадзін.

Вынік тэста на COVID-19 быў станоўчы, каранавірус даў ускладненне на печань і ныркі. Мне сказалі, што гэта новая каранавірусная інфекцыя, якая дае ўскладненне менавіта на органы брушной поласці.

**– Колькі былі ў бальніцы?**

– Прыкладна тыдзень. За гэты час тэмпературу збілі, болі спыніліся, і стала лягчэй. Два разы на дзень ставілі кропельніцы, калолі антыбіётыкі і рабілі ўколы для развадкавання крыві, але ў першыя дні чамусьці наогул не казалі, якія лекі я прымаю.

Пасля выпіскі мне сказалі, што яшчэ 14 дзён рэкамендавана сядзець на каранціне, хаця я ўжо праз тыдзень збіраюся выйсці на працу. Трэба вяртацца да нармальнага жыцця.

**– Я ведаю, што падчас вашай хваробы некаторыя знаёмыя віншавалі вас з цяжарнасцю…**

– Як кажуць, было б смешна, калі б не было так сумна. У сацыяльных сетках я насамрэч напісала, што зрабіла тэст, які паказаў некалькі палосак. І пасыпаліся віншаванні з зачаццем дзіцяці!

Але гэта быў тэст на каранавірус, а не на цяжарнасць. Дзве палоскі якраз і паказвалі, што тэст на COVID-19 станоўчы. Тры палоскі сведчаць аб тым, што хварэеш ужо тыдзень. Давялося ўсім сябрам і знаёмым тлумачыць, што жывот у мяне балеў крыху ад іншага, а віншаванні з будучым мацярынствам параіла адкласці на больш позні тэрмін.

**– Валянціна, вы ўжо каля двух месяцаў знаходзіцеся ў Маскве. Ці знайшлі за гэты час сталую працу?**

– Так, на днях афіцыйна ўладкавалася ў фітнес-цэнтр недалёка ад таго месца, дзе здымаю кватэру. У цэнтры буду працаваць трэнерам па плаванні і аквааэробіцы, а таксама трэнерам у трэнажорнай зале. Працы не баюся, трэба толькі ачомацца ад хваробы…

**Алесь СІВЫ.**

СЛЫШАЛИ?

## Пчелиный яд признали эффективным средством борьбы с COVID-19



Поскольку яд пчел имеет свойство бороться с вирусами, что было ранее доказано экспертами, он может быть эффективным средством против COVID-19, предположили ученые из клиники Ортенау Оффенбург и Йенского университета имени Фридриха Шиллера в Германии.

С целью проверки своей гипотезы исследователи предложили пасечникам, которые в разной форме столкнулись с коронавирусной инфекцией, пройти онлайн-анкетирование, включающее общие вопросы о поле и возрасте, а также вопросы, касающиеся рабочих моментов: стаж работы с пчелами, количество укусов, полученных за этот год, и наличие аллергической реакции на них.

22% опрошенных перенесли COVID-19. 41% сообщили о том, что не перенесли болезнь, но имели контакт с больными вирусом. Большая часть опрошенных в том или ином виде употребляли прополис – вещество, используемое пчелами для устранения щелей в ульях.

Исследователи сообщили, что они не могут исключить вероятности того, что введение яда пчел будет смягчать протекание болезни, вызванной вирусом, или оказывать профилактическое действие, так как ряд исследований подтвердил его противовирусный эффект.

Авторы работы добавили, что для достижения необходимого противовирусного эффекта следует применять яд пчел сразу после обнаружения инфекционного заболевания.

БЛИЦ

## Вячеслав ЧЕРНУХО-ВОЛИЧ, дирижер: «До сих пор надеюсь, что это не эмиграция»



### Дело года

В этом году я участвовал в постановках сразу двух спектаклей великого балета «Щелкунчик», произведения, любимого на всей земле. Это было в Одесском театре оперы и балета, а потом в родном белорусском оперном, где над балетом мы работали вместе с народным артистом Валентином Николаевичем Елизарьевым.

Признаться, я связывал большие надежды с нашим Большим… Но, если помните, главным дирижером я смог проработать в нашем театре ровно два дня. Потом, к сожалению, мне пришлось покинуть Минск. Это произошло против моей воли, и я до сих пор надеюсь, что это не эмиграция.

Еще весьма успешным делом своего творческого года считаю фестиваль «Зимний променад в Одесской опере». Это мой личный проект, который длился четыре вечера: два оперных вечера – «Паяцы» и «Сельская честь». И два симфонических: 9-я симфония Бетховена, а затем симфонический концерт из произведений Людвига ван Бетховена, Иоганна Брамса и Рихарда Штрауса. «Променад» мы провели еще в феврале, успели до ковида.

### Настроение года

Разочарований нет, наоборот. Трансформация белорусского гражданского сознания вызывает восхищение! Уверен, дороги назад уже нет!

### Персона года

Персон много, не смогу выделить одну-единственную. Это Виктор Бабарико, Мария Колесникова, Светлана Тихановская, Павел Латушко.

КРЫЖАВАНКА

## Надышлі Калядкі




**Па гарызанталі:** 1.Святое … – людзям прыгажство (прык.). Свята Нараджэння Хрыстова беларусы-католікі адзначаюць 25 снежня, а беларусы-праваслаўныя – 7 студзеня. 4.Палазы санак. 10.Пацяпленне зімой; … на Куццю – ранняя вясна і благое лета (прыкм.). 11.На Каляды … рады – хлопцы семак прынясуць (прык.). 12.Для добрага ката і ў студзені … (прык.). 15."Каляда, Каляда! // Нават … не бяда" – з верша Ул.Мазго "Каляда". 16.Чалавек вялікай фізічнай сілы. 19."Каляда, Каляда, // На Зямлі – Святы …" – з верша Л.Геніюш "Святы вечар". 20.Халодны паўночны вецер (разм.). 23."… ды Грышка ладзілі дуду, // Павесяліцца з ёй на Каляду" – з беларускай народнай песні. 24.Калі на Каляды ідзе снег – добра будуць раіцца … (прыкм.). 28.Вежа са званамі пры царкве. 29.Адно дрэва (разм.). 31.Тое, што і віск. 33."Бог нам аб'явіўся, // … нарадзіўся – // Каляда-Каляда, гэй!" – з верша К.Сваяка "Песня на Каляды". 34.Тое, што і смехата.

**Па вертыкалі:** 2.Паселішча на Каўказе. 3.Лыжная … – след, які пакідаюць за сабой лыжнікі. 5."Ой, ладачкі-…, // Надышлі калядкі" – з верша А.Вольскага "Калядкі". 6.Адтуліна (перан.). 7.Шапка, падбітая футрам. 8."Цар …" – батлеечны спектакль, які некалі абавязкова паказвалі на Каляды. 9.Невялікая стракатая птушка; … з раніцы пішчыць – чакай моцных марозаў (прыкм.). 13. "Абутак" для рук. 14.Месца, дзе зімуюць. 17.Студзень на …, прыбыло дня на вераб'іны скок (прык.). 18.Студзень імглісты – мокры год, студзень халодны – позняя … і халоднае лета (прыкм.). 21.Свята, якое адзначалі 14 студзеня; Святое … – людзям красілле (прык.). 22."Снег на куццю – грыбы на лета, // Такая матчына …" – з паэмы Я.Коласа "Новая зямля" ("Каляды"). 25.Захапленне. 26. … на 7 студзеня – к добраму году (прыкм.). 27.У студзені два сябры: … і мароз (прык.). 30.На Каляды – кілбаса, на Вялікдня – … , а ўсё чалавек сыт (прык.). 32."Лезь, каза, на …, пакажы хамут" – з каляднай песні.

### Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 1.Ражство. 4.Палоззе. 10.Адліга. 11.Дзеўкі. 12.Сакавік. 15.Холад. 16.Сілач. 19.Вечар. 20.Сівер. 23.Саўка. 24.Пчолы. 28.Званіца. 29.Лясіна. 31.Віскат. 33.Хрыстос. 34.Смяхота.

**Па вертыкалі:** 2.Аул. 3.Траса. 5.Ладкі. 6.Зеў. 7.Малахай. 8.Ірад. 9.Сінічка. 13.Пальчаткі. 14.Зімовішча. 17.Парог. 18.Вясна. 21.Васілле. 22.Прымета. 25.Азарт. 26.Снег. 27.Завея. 30.Сыр. 32.Кут.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**

**г.Дзяржынск.**

БАБУШКИН РЕЦЕПТ

## Что нужно добавлять в квашеную капусту, чтобы она получилась хрустящей и ароматной



Квашеная капуста считается национальным блюдом во многих странах: Беларуси, Болгарии, Украине, Германии, Польше, Чехии, России. Она очень популярна особенно в зимний период. Многие добавляют квашеную капусту в салаты либо употребляют ее в пищу в качестве основного гарнира или закуски, предварительно добавив порезанный полукольцами репчатый лук и сдобрив душистым домашним растительным маслом. Есть множество вариантов засолки, и каждый из них нашел своих почитателей. Однако существует ингредиент, который делает квашеную капусту особенно ароматной, вкусной и хрустящей.

Классический рецепт квашеной капусты известен многим хозяйкам еще со школьной скамьи. В Советском Союзе для изучения процесса отводился не один урок труда. Для тех, кто забыл, напомним основные составляющие этого незамысловатого блюда: на 2 килограмма свежей капусты понадобится 200 граммов морковки и 3 столовые ложки соли.

Многие опытные хозяйки добавляют еще тмин – он придает приятный аромат и вкус. Приправу без проблем можно приобрести в любой лавке со специями или супермаркете. Главное – использовать не молотые семена, а цельные. Их понадобится всего лишь небольшая горсть.

Вспомним, как правильно квасить капусту по старому бабушкиному рецепту с добавлением «секретного» ингредиента.

Шинкуем капусту любым удобным способом. Если нет электрического комбайна, то быстро и качественно с этим справится обычная овощерезка. Важно нарезать овощ как можно мельче, так конечный продукт получится более сочным и хрустящим.

Складываем капусту в емкость необходимого объема и добавляем соль. Затем тщательно мнем ее, пока не начнет выделяться сок.

Предварительно натертую на средней терке морковь и тмин высыпаем в миску с капустой и повторно перемешиваем.

Затем капусту максимально плотно утрамбовываем в трехлитровую банку, оставив сверху немного места для сока, который будет обильно выделяться в процессе закваски.

Оставляем емкость на блюде с высокими краями при комнатной температуре на три-четыре дня. Затем готовую капусту следует убрать в холодное место (в холодильник или подвал).

С добавлением квашеной капусты, приправленной тмином, получаются невероятно вкусные салаты, щи и солянки. Приятного аппетита!

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.).